**СОНЦА:**
Усход, заход, даўжыня дня:
Мінск — 7.17, 16.30, 9.13;
Віцебск — 7.11, 16.15, 9.04;
Магілёў — 7.06, 16.19, 9.13;
Гомель — 7.01, 16.19, 9.18;
Гродна — 7.33, 16.44, 9.11;
Брэст — 7.27, 16.51, 9.24.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 2 лістапада.

**ІМЯНІНЫ**
Якуба, Ігната, Алісея.



# ЗВЯЗДА

5 ЛІСТАПАДА 1992 г.
чацвер, № 224 (22002)




● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель


# РОЗГАЛАС

## «Нам сорамна стаяць на праезнай частцы, але інакш нас зноў не пачуюць...»

Учора раніцай настаўнікі школ, выкладчыкі вучылішчаў, тэхнікумаў, ВНУ зноў выйшлі на плошчу Незалежнасці, каб у чарговы раз заявіць аб сваім рашучым патрабаванні да ўлад рэспублікі выконваць артыкул 34 Закона аб адукацыі.

Атмасфера на плошчы была надзвычай гарачай, неспакойнай. Педагагічныя работнікі выказвалі абурэнне тым, што «адукацыйнае пытанне» парламентарыі разглядаць не спяшаюцца. Каб звярнуць на гэта ўвагу сесіі Вярхоўнага Савета, вырашылі паралізаваць рух аўтатранспарту. Многія пасажыры вымушаны былі альбо наогул адкладваць свае справы, альбо бягом бегчы па плошчы, надзвычай незадаволеныя такім «спартыўным выпрабаваннем».

— Я разумею і падтрымліваю патрабаванні настаўнікаў, аднак жа і формы пратэсту трэба абдумваць! — гаварыла кантралёр НВА «Інтэграл» Алена Шлапак. — Нельга выступаць за захаванне закона, адначасова парушаючы яго.

Нягледзячы на настойлівыя заклікі народных дэпутатаў і работнікаў міліцыі пакінуць праезную частку, рух аўтатранспарту быў паралізаваны на працягу амаль што дзвюх гадзін. У 13.00 плошчу запоўнілі людзі ў міліцэйскай форме.

— У чым справа? Ці трэба чакаць разгону мітынгуючых? — звярнулася да маёра Мінскага гарадскога ўпраўлення аб'яднання аховы Васіля Калкова.

— Крыўдна, што нашы настаўнікі паводзяць сябе не па-настаўніцку. Чаму з-за іх павінны цярпець іншыя людзі? Грамадскі парадак павінен быць забяспечаны.

(Заканчэнне на 3-й стар.).




## ЛКСМБ ВЫХОДЗІЦЬ З ПАДПОЛЛЯ

**У Мінску прайшоў 32-гі з'езд ЛКСМБ, на які было выбрана 46 дэлегатаў ад 9 тэрытарыяльных акруг, з іх прысутнічалі 39. Маладзёжны камуністычны рух не адышоў у нябыт. Сярэдні ўзрост дэлегатаў з'езда — 22 гады. 27 дэлегатаў упершыню выбраны на з'езд ЛКСМБ. Камсамольцы прынялі дэкларацыю «Аб бягучым палітычным моманце», а таксама прызналі, што сённяшні маскоўскі ЛКСМ — арганізацыя ўнітарная. Беларускія камсамольцы звярнуліся да маскоўскіх калег з прапановай аб правядзенні да 1 мая 1993 года 24-га з'езда ВЛКСМ і аб прыняцці «беларускай канцэпцыі» камсамола.**

**Павел ВАСІН, РІД.**

## ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ РОЗДУМУ:

### ТАВАРНЫЯ ЗАПАСЫ

**Кажуць, што ў апошнія месяцы тавараў стала менш. Не будзем галаслоўна аспрэчваць або пацвярджаць гэтую думку, а лепш прывядзём афіцыяльныя даныя Дзяржкамстата Рэспублікі Беларусь па стану на 1 кастрычніка бягучага года.**

**Таварныя запасы ў рознічным гандлі па абласцях**

| | На 1.10.1992 года мільёнаў рублёў у фактычных цэнах | У днях гандальабароту | |
|---|---|---|---|
| | | На 1 кастрычніка 1991 года | На 1 кастрычніка 1992 года |
| Рэспубліка Беларусь | 33.689 | 38 | 41 |
| Вобласці: | | | |
| Брэсцкая | 4.628 | 39 | 41 |
| Віцебская | 5.257 | 38 | 46 |
| Гомельская | 4.832 | 38 | 38 |
| Гродзенская | 3.715 | 39 | 44 |
| Горад Мінск | 5.424 | 33 | 33 |
| Мінская | 5.287 | 42 | 47 |
| Магілёўская | 4.546 | 41 | 46 |

Відавочна, што запасы ў беларускага гандлю ёсць, як у цэлым, так і па асобных абласцях. І ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года іх нават пабольшала. Вось толькі цэны...

## АПЕРАЦЫЯ «ГРАНІЦА»

**Трое сутак міліцыя прыгранічных раёнаў Віцебшчыны «прыкрывала» сабой паўночныя граніцы рэспублікі.**

Пад наглядам знаходзілася кожная лясная дарога, па якой ледзь-ледзь праходзілі машыны. Адну з такіх сцежак, якая вядзе з Полацка ў Асвею, аблюбавалі вадзіцелі вялікагрузных аўтамабіляў. Адзін за адным у міліцэйскую пастку трапілі два латвійскія бензавозы, загружаныя 3.720 літрамі бензіну А-76 і 4.100 літрамі дызпаліва. «КамАЗ» рыжан Я. і Ш., дарэчы, без нумароў, спрабаваў «экспартаваць» восем тон металалому на суму 800 тысяч рублёў. За ім без дакументаў ехаў «МАЗ» рыжаніна П. з васьмю тысячамі літраў дзевяноста трэцяга бензіну. Кожны з вадзіцеляў пакінуў у судзе Верхнядзвінскага раёна па пяць тысяч рублёў штрафу.

Тры дні аперацыі «Граніца» вярнулі рэспубліцы тавараў на суму 46.639.620 рублёў. Акрамя паліва за граніцу спрабавалі вывезці 15 тысяч метраў ізаляцыйнага меднага дроту, 13.500 бляшанак мясных кансерваў, 136 тысяч пачкаў «Астры»... Унушальныя лічбы і сумы можна пералічваць і далей, бо фактаў кантрабанды ажно 819. На КПП таксама не драмалі. Супрацоўнікі Расонскага райаддзела, напрыклад, затрымалі прэзідэнта адной з камерцыйных фірм, у багажніку машыны якога знайшлі наган і патроны. Усё гэта ён, аказваецца, набыў на мінскім птушыным рынку.

Да ведама парушальнікаў, АУС Віцебскага аблвыканкома плануе і ў далейшым праводзіць падобныя акцыі. І ў гэтым спадзяецца на падтрымку ўрада, які яшчэ 22 кастрычніка пазамінулага года даручыў сваім распараджэннем за № 486-р Дзяржэканомплану выдзеліць 35 легкавых аўтамашын для абсталявання спецпунктаў кантролю.

АД ПАРЛАМЕНЦКАГА АГЛЯДАЛЬНІКА

## Цяпер — стратэгія стрымлівання і актыўнай абароны. Нейтралітэт — потым

Нейтральнай бяз'ядзернай дзяржавай Беларусь зможа стаць, на жаль, не сёння і не заўтра. Ваенная дактрына (першая за ўсю гісторыю Беларусі), якая абмяркоўвалася днямі за зачыненымі дзвярамі парламента, у поўнай меры адлюстроўвае гэту рэальнасць. Як падкрэсліў міністр абароны Павел Казлоўскі ў час прэс-канферэнцыі, што адбылася пасля закрытага пасяджэння, дактрына будзе дзейнічаць на час пераходнага перыяду, пакуль з Беларусі не выведзены расійскія стратэгічныя сілы, а на радзіму не вернуты ваеннаслужачыя - беларусы.

Абрысы будучай абароннай сістэмы Беларусі ўяўляюцца пакуль што надзвычай агульна і размыта. Імкненне да бяз'ядзернага і нейтральнага статуса, абвешчанае ў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце, застаецца толькі дэкларацыяй. І шлях да нейтралітэту, хутчэй за ўсё, будзе нялёгкім і працяглым. Прынамсі, у цяперашнім Вярхоўным Савеце нямала прыхільнікаў таго, каб Беларусь далучылася да ваеннага блока, які збірае вакол сябе Масква. Як стала вядома з інфармаваных крыніц, пытанне аб гэтым шырока дыскутавалася за зачыненымі дзвярамі ў час абмеркавання ваеннай дактрыны і засталося адкрытым. Яно, бадай, яшчэ не раз будзе ўзнімацца падчас дзеяння цяперашняга саставу парламента.

Беларусь пасля развалу Варшаўскага Дагавора, а ўслед за гэтым крушэння Савецкай імперыі, апынулася ў даволі няпэўным становішчы з пункту гледжання ваеннай стратэгіі. З аднаго боку, нашы самыя блізкія суседзі — краіны Балтыі — шукаюць гарантый уласнай бяспекі ў як мага больш цесных сувязях з Паўночнаатлантычным блокам — НАТО. З другога — Расія,

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ДЗЯРЖАЎНАЯ КІШЭНЬ НЕ БЯЗДОННАЯ:

## на ўсе сацыяльныя гарантыі сёння яе не хопіць

**Аналізуючы становішча ў сацыяльна-культурнай сферы і па-за ёю, нельга не прыйсці да высновы, што не рэфармаваць яе, прычым карэнным чынам, ужо проста нельга, а рабіць стаўку на касметычныя карэкціроўкі, якія мы практыкавалі да гэтага часу, проста бяссэнсава. Можам згубіць усё.**

Галоўная задача заключаецца ў тым, каб з арыентацыяй на дасягнуты ўзровень фінансавання асноўных сацыяльных праграм ужо ў бліжэйшай перспектыве пачаць паэтапную «разгрузку» бюджэту, паэтапна ўключаючы па ўсёй сацыяльнай сферы пазабюджэтныя крыніцы фінансавання, як бы складана і нязвыкла для нас гэта ні было.

Сёння адпаведным міністэрствам і ведамствам, абласцям ставіцца задача вызначыць той мінімум сацыяльных праграм, якія будуць мець гарантаванае і безумоўнае бюджэтнае фінансаванне (такія, як пенсіённае забеспячэнне, абарона інвалідаў, адукацыйная праграма, але толькі ў частцы мінімальных(!) патрабаванняў да адукацыі, праграма нацыянальна-культурнага адраджэння, але толькі ў частцы выключных (!) дзяржаўных інтарэсаў і г. д.).

Неабходна ў сціслыя тэрміны «падчысціць» многія з сацыяльных праграм. Патрабуецца да мінімуму звесці датацыі практычна па ўсіх праграмах, якія датуюцца.

Далей, неабходна распачаць фарміраванне праграм змешанага і пазабюджэтнага фінансавання.

Для многіх сацыяльных праграм крыніцамі пазабюджэтнага фінансавання з'яўляюцца, перш за ўсё, пашырэнне платных паслуг і развіццё ўласнай камерцыйнай дзейнасці — гэта прынцыпова новы аспект у будаўніцтве сацыяльна-культурных праграм на бліжэйшую і больш далёкую перспектывы.

Коратка спынюся на асноўных напрамках.

### АДУКАЦЫЯ

Нам трэба ствараць сваю нацыянальную школу. На месцах, асабліва на абласным узроўні, неабходна сістэма новых навучальных устаноў: ліцэяў, гімназій, каледжаў. Не абысціся без пэўных захадаў па стварэнню інтэграваных навучальных устаноў: ПТВ-тэхнікумаў, тэхнікумаў-ВНУ і г. д., бо менавіта праз такія структуры можна больш гібка вырашаць пытанні забяспечанасці кадрамі ва ўмовах рынку працы.

Сёння практычна завершана распрацоўка канцэпцыі нацыянальнай адукацыі, якая хутка будзе прымацца ўрадам рэспублікі. У ёй ёсць усе накірункі сацыяльна-эканамічнага развіцця гэтай сферы, у тым ліку галоўныя: пераход да новай эканомікі сферы адукацыі, пошук розных (не толькі бюджэтных) форм фінансавання.

Тут, увогуле, вялікае поле для манеўру. Многа розных схем. Напрыклад, наступная, якая сёння актыўна абмяркоўваецца. Як я ўжо згадаў, бюджэт забяспечвае толькі выкананне мінімальных дзяржаўных патрабаванняў да зместу адукацыі і навучання.

Цалкам на бюджэце знаходзіцца толькі базавая агульнаадукацыйная школа і цалкам забяспечваецца базавая агульнаадукацыйная падрыхтоўка ў ПТВ, тэхнікумах, ВНУ.

Усе астатнія этапы і ступені адукацыі фінансуюцца з бюджэту часткова альбо цалкам пакрываюцца за кошт пазабюджэтнага фінансавання.

Напрыклад, у дачыненні да вышэйшай школы бюджэтнае фінансаванне забяспечвае толькі вышэйшую агульнаадукацыйную падрыхтоўку (неабходны пералік агульнаадукацыйных курсаў), што дае першую ступень вышэйшай адукацыі і дыплом бакалаўра.

Вышэйшая прафесіянальная падрыхтоўка (дыплом магістра) забяспечваецца альбо на платнай аснове, альбо шляхам увядзення дзяржаўнага крэдытавання (магчыма, і недзяржаўнага) з адтэрміноўкай пагашэння крэдыту, напрыклад, да пяці гадоў, з наступнай беспрацэнтнай выплатай на працягу наступных дзесяці гадоў.

Тут шмат варыянтаў. Напрыклад, пры выдатных поспехах крэдыт пагашаецца дзяржавай.

Увогуле, пад дахам ВНУ, як і пад дахам любой моцнай прафесіянальнай навучальнай установы, павінна функцыяніраваць сетка платных спецкурсаў, якія даюць магчымасць студэнту больш мэтанакіравана рыхтавацца да пасляінстытуцкага жыцця, больш гібка ўлічваць інтэлектуальныя магчымасці і здольнасці студэнта.

Ва ўмовах эканамічнага крызісу не пазбаўлены логікі перавод старэйшай ступені школы (ліцэяў, гімназій, каледжаў) на аплату бацькамі, рознымі фондамі і г. д.

Для змястоўнай рэалізацыі нашай адукацыйнай палітыкі і разам з тым для «разгрузкі» бюджэту важнае месца адводзіцца муніцыпальным фондам адукацыі, якія маглі б атрымліваць ільготныя крэдыты для вырашэння канкрэтных задач (скажам, стварэнне культурна-адукацыйных цэнтраў).

### КУЛЬТУРА

Сёння мы блізкія да разумення, што поспех эканамічных праграм у значнай ступені будзе залежаць ад культурна-нацыянальнага адраджэння Беларусі.

У аснове новай культурнай палітыкі:

— стварэнне рэальных сацыяльна-палітычных і эканамічных умоў для ўстанаўлення на тэрыторыі рэспублікі прыярытэтнасці беларускай нацыянальнай культуры, яе каштоўнасцей;

— распрацоўка і ажыццяўленне новых падыходаў і прынцыпаў кіравання культурнай сферай, якія ўлічвалі б сучасныя тэндэнцыі і напрамкі яе развіцця.

Для дасягнення мэт дзяржаўнай культурнай палітыкі і забеспячэння развіцця пазначаных вышэй прыярытэтаў неабходна, на наш погляд, вырашэнне на дзяржаўным узроўні шэрагу вельмі важных задач у розных накірунках.

Аснову нацыянальнай культуры, як вядома, складаюць мова, народныя традыцыі, рамёствы і промыслы, фальклор. Тут трэба падтрымаць і ўзмацніць той «агонь», які яшчэ застаўся, дапамагчы майстрам аб'яднацца ў асацыяцыі, стварыць майстэрні, школы майстроў для перадачы навыкаў і ўмення маладому пакаленню.

На шляхах адраджэння асаблівую ўвагу трэба надаць галоўным сферам нацыянальнай спадчыны. Даволі добра вывучана гісторыя літаратуры, фалькларыстыкі, тэатра, народнага побыту, аднак да гэтага часу няма грунтоўных прац па гісторыі айчыннай навукі, музыкі. Зусім не вывучана духоўна-рэлігійная частка нашай спадчыны. Наспеў час стварыць сінтэтычную гісторыю беларускай культуры і адпаведны банк інфармацыі.

Трэба падумаць, як зрабіць так, каб шмат з таго, што сёння пыліцца ў запасніках, пайшло ў перасовачныя экспазіцыі, знайшло месца ў тых установах культуры, дзе ажыццяўляецца культурна-выхаваўчы працэс. Трэба падумаць і пра тое, каб падрыхтаваць шэраг музейных экспазіцый для дэманстрацыі за мяжой, у тым ліку і на камерцыйнай аснове, што дапаможа набыццю валюты. Можна і трэба абменьвацца экспазіцыямі з нашымі суседзямі (Польшчай, Літвой, Украінай), — гэта добра пасрыяе міжкультурным зносінам, лепшаму паразуменню паміж народамі.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

# ФАКТ / РАДЫЁФАКТ

**За неабходнасць пуску новых блокаў на атамных электрастанцыях Украіны выказаліся ўдзельнікі нарады галоўных інжынераў АЭС у рэспубліцы. Яны адзначылі, што рашэнне аб поўным закрыцці Чарнобыльскай АЭС у 1993 годзе ўзмоцніць энергетычны крызіс на Украіне. Каб пазбегнуць яго, неабходна, на іх думку, пусціць у эксплуатацыю ўжо гатовыя блокі на Ровенскай, Хмяльніцкай і Запарожскай АЭС.**

***

Рашэнне прэзідэнта Расіі прыпыніць вывад войск з Балтыі абмеркаваў 4 лістапада Балтыйскі савет у Вільнюсе. Дзяржаўны міністр Латвіі Яніс Дзіневіч лічыць, што, Латвія павінна неадкладна звярнуцца ў розныя міжнародныя арганізацыі.

***

**Югаслаўская тэнісістка Моніка Селеш па-ранейшаму займае першы радок у класіфікацыі Асацыяцыі жаночага тэніса.**

**Мінчанка Наталля Зверава займае ў гэтай класіфікацыі дзевятнаццатае месца. Затое ў спісе тых, хто ў гэтым годзе выйграў найбольш прызавых грошай, Наталля Зверава знаходзіцца на пятым месцы — 550 тысяч 994 долары.**

## У АБСТАНОЎЦЫ ДАВЕРУ

У Беларусі 1—2 лістапада знаходзіўся з афіцыяльным візітам генеральны сакратар НАТО доктар Манфрэд Вернер. У панядзелак раніцай ён быў прыняты Старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіславам Шушкевічам. І хоць саракапяціхвілінная гутарка праходзіла за зачыненымі дзвярамі, тых нямногіх імгненняў, якія Вернер і Шушкевіч выкраілі для сустрэчы з беларускімі журналістамі, аказалася дастаткова, каб пераканацца: сустрэча праходзіла ў абстаноўцы даверу, абодва кіраўнікі задаволены яе вынікамі.

Станіслаў Шушкевіч адзначыў, што ён інфармаваў лідэра НАТО аб нязменнасці курсу Беларусі да статуса нейтральнай, бяз'ядзернай дзяржавы. Ён таксама паведаміў, што ў ходзе гутаркі закраналіся праблемы раззбраення, па якіх Беларусь таксама прытрымліваецца цвёрдых пазіцый у поўнай адпаведнасці з заключанымі дагаворамі.

У другой палавіне дня 2 лістапада генеральны сакратар НАТО адбыў з Мінска.

**БЕЛІНФАРМ.**

# «Цукеркі» з пеніцылінавай начынкай

Ці шмат нашаму, постсавецкаму чалавеку патрэбна для поўнага шчасця? Банальнае пытанне — натуральна, няшмат. Адна суграмадзянка наконт гэтага, не задумваючыся, выпаліла: каб каўбаса заканчвалася ў чарзе не перад табой, а за. Вось так, і толькі. Таму няцяжка ўявіць, колькі шчасця было ў жыхаркі Барысава Аксаны Макарыхінай, калі яна даведалася, што атрымлівае кватэру. Прычым не нейкай там палепшанай планіроўкі, а «імпартную» — пабудаваную турэцкай фірмай «Энка» на грошы, выдзеленыя немцамі з выпадку падзення «берлінскай сцяны».

Усялялася сям'я Макарыхіных, як і яшчэ 699 «ячэек нашага грамадства», з пачуццём глыбокай удзячнасці пазбаўленаму напярэдадні пасады «архітэктару перабудовы». Адбылася гэтая падзея ў пачатку сёлетняга года і прынесла правінцыяльнаму беларускаму гарадку Барысаву ледзь ці не сусветную вядомасць. Выгляд дванаццаці камфартабельных дамоў, дзе ўсё імпартнае, пачынаючы ад лямпачак на паверхах і заканчваючы, пардон, унітазамі, выклікаў ва ўладальнікаў ордэраў стан лёгкай эйфарыі.

Макарыхіны ўехалі ў кватэру нумар семнаццаць. Купілі мэблю. Здавалася — жыві, радуйся. Але не, імпартнае шчасце дало трэшчыну ўжо праз чатыры месяцы. Пачалося з «цёмнага» пакоя, людзі называюць яго яшчэ іншы раз «цешчыным». Зазірнуўшы туды, гаспадыня са здзіўленнем убачыла чорна-зялёную цвіль. Выцерла. Праз некаторы час цвіль з'явілася зноў і метадычна пачала «жаваць» шпалеры ва ўсіх пакоях запар. Уключаныя абагравальнікі не дапамагалі. Чорная слізь быццам смяялася з жыльцоў. Ад сцен адсунулі мэблю — дарэмна. Сырасць захапіла кватэру і адпускаць яе ўжо не збіралася. Сцены і столь пакрыліся вільгаццю, стаў дуба паркет, завезены з Турцыі. Макарыхіны тады яшчэ не ведалі, што нешта падобнае адбывалася яшчэ ў некалькіх кватэрах, на чыіх дзвярах была лічба 17. Высветлілася: гэта выпадкова. Аксана Макарыхіна падзялілася бядой з Ірынай Гудковай з суседняга дома. Тая з горыччу махнула рукой: «У мяне праз 2 месяцы тое самае пачалося».

Кватэры з парадкавымі нумарамі 17 размешчаны на пятых паверхах вуглавых пад'ездаў. І, відаць, менавіта таму раней за іншыя, сталі ахвярамі ўсюдыісных грыбкоў. Гудковым, напрыклад, жыццё ў «імпартным» доме абярнулася сапраўднай драмай. Грыбок захапіў акрамя «цёмнага» яшчэ два пакоі, і сям'і давялося перабірацца ў трэці, дзе жыць пакуль сяк-так можна. Дакладней, з пункту погляду медыцыны нельга, але іншага выйсця няма. Так і жывуць у адным пакоі Ірына з мужам Валянцінам і двое дзяцей. Паветра ў доме, як у самым цёмным падвале — цяжкае, затхлае. Праветрываць амаль няма сэнсу. Праз два месяцы жыцця на новым месцы малодшы сын захварэў бранхітам, у старэйшага ўрачы падазраюць астму.

Гудковы звярнуліся за дапамогай у фірму «Энка». Туркі прапанавалі пачакаць да вясны. Маўляў, зімой рабіць рамонт немэтазгодна. Вясной таксама ніхто палец аб палец не ўдарыў — спасаліся на адсутнасць спецыялістаў. І нават нягледзячы на тое, што лета ў гэтым годзе выдалася вельмі гарачае, сырасць не знікла. Наадварот, з тарцовых кватэр грыбок пачаў пранікаць унутр дамоў. Да Гудковых завіталі турэцкія рабочыя, выразалі ў сценах тры вялікія квадраты і пайшлі. Так працягваецца і па сённяшні дзень.

Да верасня пацярпеўшых ад сырасці кватэр было толькі тры, сёння, па самых сціплых падліках, ужо 17. Лічбы даволі адносныя, таму што спецыяльна падлікам ніхто не займаўся. У нас жа заўсёды так: пакуль навала не закране кожнага персанальна, адзінства ў людзях не чакай. Што датычыцца гучна разрэкламаванай «Энкі», дык апошняя, на мой погляд, яўна не спяшаецца разбірацца ў тым, што адбываецца. Фірма ў паскораным тэмпе рыхтуецца да здачы аналагічнай будоўлі ў Слоніме, лічачы Барысаў пройдзеным этапам.

А ў жыхароў, чые дзеці хварэюць з-за падазронай сырасці некалі фешэнебельных кватэр, абурэнне ўжо наблізілася да крытычнага пункту. Адсюль і даволі распаўсюджанае сярод навасёлаў меркаванне — фірма «Энка» нас, мякка кажучы, падманула, пабудаваўшы ў кліматычна капрызнай Беларусі зусім непрыдатныя да нашага тэмпературнага рэжыму дамы. Магчыма, у Турцыі грыбок і не з'яўляўся б, а ў нас праз дзесяць месяцаў эксплуатацыі самы час адкрываць у «імпартным» гарадку пеніцылінавую фабрыку.

Людскія эмоцыі часта неаб'ектыўныя. І таму мы не сцвярджаем, што версія пацярпеўшых ёсць ісціна ў апошняй інстанцыі. Апошняе слова, натуральна, за незалежнымі экспертамі. Мы ж канстатуем неаспрэчны факт: сцены «цвітуць» і жыць у некаторых кватэрах, пабудаваных паважанай «Энкай», проста небяспечна для здароўя.

Далей. Спецыялісты мясцовай КЭЧ сцвярджаюць, што, калі зімой тэмпература будзе ніжэй за 20 градусаў марозу, абавязкова «пацякуць» усе 12 дамоў. Дарэчы, трэшчыны на некаторых сценах можна ўбачыць ужо сёння. Як і паркет, сапсаваліся шпалеры, рассохліся дзверы.

Жыхары стаміліся абіваць парогі турэцкай фірмы, але разумеюць, што мірыцца з цяперашнім становішчам таксама нельга. Апошняя надзея — пасольства Германіі. Адзін прадстаўнік нямецкага боку нядаўна пабываў у Барысаве, аднак «Энка» паказала яму далёка не ўсё, што хацелі б паказаць жыльцы. Выбіральнасць турэцкага боку зусім зразумелая. Нямецкія спецыялісты вядомыя ва ўсім свеце даволі адназначнымі адносінамі да халтуры. Жартаваць яны не будуць. А гэта значыць — «Энка» панясе страты. І немалыя, бо частку прыбытку, атрыманага з агульнавядомых мільёнаў бундэсмарак, давядзецца аддаць на рамонтныя работы. Таму «Энцы» архівыгадна рабіць выгляд, што нічога страшнага ў Барысаве не адбываецца.

Тым больш, што пратрымацца засталося толькі каля двух месяцаў. У студзені заканчваецца тэрмін гадавой гарантыі, і потым «Энка» будзе вызвалена ад якіх-небудзь абавязацельстваў перад нашай рэспублікай. Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што барысаўскіх скаржнікаў у мясцовым прадстаўніцтве фірмы цяпер не прымаюць.

«Не ўсё тое золата, што блішчыць» — сцвярджае народная прымаўка. «Дамы-цукеркі», якія ў свой час так распісвала прэса, на справе аказваецца зусім не тым, што мы сабе ўяўлялі. Начынка ў іх даволі своеасаблівая, калі так можна сказаць — пеніцылінавая. Дарэчы, каго абвінавачваць? Ніхто ж не прымушаў у свой час кіраўніцтва Беларускай ваеннай акругі (цяпер міністэрства абароны) купляць самы танны праект. Хацелася, каб больш і дзешавей...

Дарэчы, ваенныя барысаўскія дамы прынялі (у студзені) і засталіся вельмі задаволенымі. Ніхто і не заўважыў тады, што абяцаная АТС не працуе, а ваду з-за адсутнасці сцёкаў з басейна дзіцячага садка трэба адпампоўваць помпамі...

Заўсёды мы вызначаліся асаблівым пакланеннем усяму замежнаму. У тым жа Барысаве людзі так доўга маўчалі зусім не з-за боязі міжнароднага скандалу. Верылі: капіталісты не могуць, як мы. Значыць, падмануліся?

Не будзем спяшацца з вывадамі. На мой погляд, пакуль яшчэ не позна, трэба стварыць адпаведныя камісіі Савета Міністраў і Вярхоўнага Савета і з дапамогай экспертаў разабрацца, што пабудавана ў Барысаве і што будуецца ў Слоніме. Думаецца, не адмовяцца нам дапамагчы ў гэтым і адказныя работнікі пасольства Германіі.

І не трэба саромецца. Уявіце лепш, што адбылося б у той жа Турцыі, каб мы ім пабудавалі дом, які праз паўгода эксплуатацыі трэба было б рамантаваць. Ляманту было б на ўсю Еўропу. А мы маўчым...

**Аляксандр ТАМКОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ:**
● Прыгожы гарадок, але...
● У кватэры № 17, дзе жыве афіцэр Валянцін Гудкоў, сцены пакрыліся цвіллю.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

**ДА КАНЦА ПАДПІСКІ ЗАСТАЛОСЯ 9 ДЗЁН. ІНДЭКС «ЗВЯЗДЫ» — 63850, ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА ПАЎГОДА — 120 РУБЛЁЎ.**

